Эдуард Акулін
Мікола Яцкоў

# Мае сны без цябе пустыя...



Песьні

# Эдуард Акулін
# Мікола Яцкоў

# *Мае сны без цябе пустыя…*



*Песьні*




**Брылі 2013**

**Акулін, Э.,  Яцкоў, М.**
Мае сны без цябе пустыя… / Песні / Акулін Э., Яцкоў М. - Брылі: Справа, 2013. - 24 с.

У кнігу ўвайшло шаснаццаць песень кампазітара Міколы Яцкова на вершы паэта Эдуарда Акуліна. Паэзія Э.Акуліна вызначаецца пранікнёным лірызмам, тонкім гукапісам, абвостраным адчуваннем глыбінь чалавечых пачуццяў, у падмурку якіх невычэрпны і рэльефны мeладызм. Усё гэта  прыцягнула ўвагу М.Яцкова, які ўслухаўся ў гучанне паэтычных радкоў і паклаў пачутыя мелодыі на нотныя аркушы.

# Мая Крывія

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

(♩=120) Am — Dm
Зям- ля ве-ка-вых ба - роў, зям- ля ва-сіль-ко-вай
G — Em
ра- ні, зям- ля за-ла-тых бус - лоў, у пром-нях ка-сых сві-
F — Dm
-тан-ня, зям- ля ве-ра-со-вых сноў, зям- ля зве-ча-рэ-лых
E7 — Dm
плё-саў, зям- ля, у чы- іх сы - ноў тра-гіч-ней не знoй-дзеш
E7 — Dm — G — C
лё - саў. Гэ- та ма- я Кры-ві-я, гэ - та тва-
Am — Dm — G
-я Кры-ві-я, бу- сел на до-світ-ку з лі-пы ныр-цу-е ў сі-
C — Dm — G — Em
-не-чу. Гэ- та ма- я Кры-ві-я, гэ - та тва-
A7 — Dm — G — C
-я Кры-ві-я, хай жа па-лёт я-го доў-жыц-ца цэ-лу-ю веч-насць.

Зямля векавых бароў,
Зямля васільковай рані,
Зямля залатых буслоў,
У промнях касых світання.

Зямля верасовых сноў,
Зямля звечарэлых плёсаў,
Зямля, у чыіх сыноў
Трагічней не знойдзеш лёсаў.

Прыпеў.

Зямля шугавей зімовых,
Вясною у кронах груш,
Зямля нескаронай мовы
І самых адкрытых душ.

Зямля самых сумных песень,
Зямля самых белых рос,
Зямля, дзе маё Палессе
Світае карой бяроз.

Прыпеў.

Прыпеў:

Гэта мая Крывія, гэта твая Крывія!
Бусел на досвітку з ліпы нырцуе ў сінечу.
Гэта мая Крывія, гэта твая Крывія!
Хай жа палёт яго доўжыцца цэлую вечнасць!

# Ты пакліч мяне, пазаві...

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

(♩=120)

Am
Па-чы- на-ец-ца ўсё з люб- ві - па-ца-

Dm
-лу-нак, жыц-цё, да-ро-га, ты па- кліч мя-не, па-за-

G E7 A7 Dm
-ві - я аб гэ-тым ма-лю - Бо-га. Ты па-кліч мя-

E7 Am D
-не, па-за-ві, мы за-гу- бім-ся ў рос-ных тра-вах, па-чы-

Dm E7 Am Dm E7
-на-ец-ца ўсё з люб-ві і за- канч-ва-ец-ца так

F Dm E7 F Dm E7
са-ма, па-чы-на-ец-ца ўсё з люб-ві і за-канч-ва-ец-ца так

Am
са-ма.

Пачынаецца ўсё з любві -
Пацалунак, жыццё, дарога.
Ты пакліч мяне, пазаві -
Я аб гэтым малю Бога.

Прыпеў: Ты пакліч мяне, пазаві,
Мы загубімся ў росных травах.
Пачынаецца ўсё з любві
І заканчваецца так сама,
Пачынаецца ўсё з любві
І заканчваецца так сама.

За табою ўслед пайду,
Палячу сіраце́лым ветрам,
Калі нават цябе знайду
Я на іншым баку сусвету.

Прыпеў.

# Сумую...

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

Су- му-ю без тва-іх воч, без
кос тва-ёй смо-лі чор-най, ча- кан- ня май-го
ноч не ста-не ад слёз зор-най. Су- //
//зруб пад да-хам а-дзі- но-ты. Су-
-му-ю. Міль-ё-на слоў не хо-піць на сму-так
гэ-ты, за- поз-не-ным рэ-хам сноў вяр-
-та- еш- ся да мя- не ты.

Сумую без тваіх воч,
Без кос тваёй смолі чорнай.
Чакання майго ноч
Не стане ад слёз зорнай.

Сумую без тваіх губ,
Без рук дарагіх, пяшчотных.
Надзеі маёй зруб
Пад дахам адзіноты

Прыпеў: Сумую... Мільён слоў
Не хопіць на смутак гэты.
Запозненым рэхам сноў
Вяртаешся да мяне ты.

Сумую без тваіх плеч –
У страту мне іх не верыцца.
Пакуты маёй меч,
Працягнавы лёд сэрца.

Прыпеў.

# Начная ластаўка

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

(♩=120) Am Dm

Тры-два-нац-цаць-со-рак пяць я спя-ша-ю-

E7

-ся на-брацць, толь-кі чу-ю кож-ны раз я маў-

Am A7 Dm

-чан-не у ад-каз. Па-мяць тэ-ле-

A7 Dm Am

-фон-на-я не-на-дзей-на-я та-ка-я, як свят-ло тваі-
як лю-боў у-

E7 A7 E7

-го кры-ла, ластаў-ка ма-я нач-на-я. // лас-таў-ка ма-я на-
-ся тва-я,

Am

-чна-я.

Тры – дванаццаць – сорак пяць
Я спяшаюся набрацць –
Толькі чую кожны раз
Я маўчанне у адказ.

Прыпеў: Памяць тэлефонная
Ненадзейная такая,
Як святло тваіго крыла,
Ластаўка мая начная.

Памяць тэлефонная
Ненадзейная такая,
Як любоў уся твая,
Ластаўка мая начная.

Цяжка ў памяць мне званіць
Ды цяжэй цябе забыць,
Вінаваты толькі ён –
Твой маўклівы тэлефон.

Прыпеў.

# Пане гаспадару

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

(♩=132)

Шчо-кі, вус-ны, пле-чы ма-ла-ды-я, ма-ра-зы, за-ве-і,
шчы-ра-я куц-ця, ме-сяц звод-нік, ко-ні у-да-лы-я, па-ца-
-лу-нак грэш-ны аж да за-быц-ця, ме-сяц звод-нік,
ко-ні у-да-лы-я, па-ца- лу-нак грэш-ны аж да за-быц-ця.
Па-не, па-не, па-не гас-па-да-ру, па-не гас-па-да-ру,
тут ві-на ма-я, па-не, па-не, па-не гас-па-да-ру,
ў ва-шу гас-па-ды-ню за-ка-ха-ны я, ў ва-шу гас-па-ды-ню
за-ка-ха-ны я.

Шчокі, вусны, плечы маладыя,
Маразы, завеі, шчырая куцця,
Месяц-зводнік, коні удалыя,
Пацалунак грэшны – аж да забыцця } 2 р.

Прыпеў: Пане, пане, пане-гаспадару,
Пане-гаспадару, тут віна мая!
Пане, пане, пане-гаспадару,
Ў вашу гаспадыню закаханы я,
Ў вашу гаспадыню закаханы я!

Вочы, рукі, зоры залатыя,
Пад дугою бомы, хмель у галаве,
Песня-свацця, коні удалыя
І такі гарачы, не зімовы снег. } 2 р.

Прыпеў.

# Чужая жонка

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

(♩=76)

Am Dm E7
Зга- ту- еш двай-ну-ю ка-ву, за-кры-еш на ключ ква-

Am E7 Am Dm E7
-тэ-ру, і зной-дзеш са-бе пад- ста-ву, і змy-сіш мя-не па-

Am E7 Am Dm
ве- рыць. Па- ту-шыш тар-шэр у ку-це, сля-

E7 Am F
-зо-ю шча-ку а- све-ціш і на-ват пра-сіць не

Dm E7 Am
бу-дзеш, каб я ця-бе зноў-ку стрэ- ціў.

Dm G C Am Dm
Час на-ды- хо-дзіць га-ва-рыць, а што ска-заць та-бе не

E7 Dm G C Am
зна-ю, ля-гчэй да ра-ні-цы лю- біць, чым

Dm E7 Am
мо-віць здрад-на- е: „Ка - ха- ю."

## Чужая жонка

Згатуеш двайную каву,
Закрыеш на ключ кватэру,
І знойдзеш сабе падставу,
І змусіш мяне паверыць.

Патушыш таршэр у куце,
Слязою шчаку асвеціш
І нават прасіць не будзеш,
Каб я цябе зноўку стрэціў.

Прыпеў: Час надыходзіць гаварыць,
А што сказаць табе – не знаю.
Лягчэй да раніцы любіць,
Чым мовіць здраднае: „Кахаю".

Паправіш пасцель на золку,
Акно на ўсход раскрыліш
І станеш чужою жонкай,
Хоць мужа свайго не кінеш.

Запаліш таршэр у куце,
Схаваеш слязу ў гарсэце
І нават прасіць не будзеш,
Каб я цябе зноўку стрэціў.

Прыпеў: Час надыходзіць далей жыць,
А як мне жыць пасля такога?..
Анёла з Д'яблам прымірыць
Павек не вымаліць у Бога.

# Паўднёвы ўспамін

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

Гэ-та прос-та на мо-мант хва-лі
а-глу-шы-лі пры-бо-ю шу-мам,
гэ-та вус-ны да-звол да-ва-лі,
гэ-та во-чы свi-та-лi су-мам.
Вi-на-ва-ты, вi-на-ва-ты паў-днё-вы ве-чар,
прос-та так, прос-та так, без я-кой пры-чы-ны, а-бды-
-ма-ю чу-жы-я пле-чы, пе-шчу ко-сы чу-
-жой жан-чы-ны.

Гэта проста на момант хвалі
Аглушылі прыбою шумам,
Гэта вусны дазвол давалі,
Гэта вочы світалі сумам.

Прыпеў: Вінаваты, вінаваты паўднёвы вечар.
Проста так, проста так, без якой прычыны,
Абдымаю чужыя плечы,
Пешчу косы чужой жанчыны.

Гэта проста залётны вецер
Дзве рукі ў замок з'яднаў.
Люстраваліся у Сусвеце
Нашы постаці як адна.

Прыпеў.

# На возеры

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

Што збы-ло-ся між на- мі – не ма-гу зра-зу-
-мець, сон-ца з вы-сяў сна-па- мі
пром-няў сы-па-ла медзь. Ды па хва-лях да-
-лё- ка по-шчак сло-ваў пра-бег: –Як жа
мне а-дзі- но- ка жыць бы-ло без ця-бе. Ды па //
// жыць бы-ло без ця- бе.

Што збылося між намі –
Не магу зразумець.
Сонца з высяў снапамі
Промняў сыпала медзь.

Прыпеў: Ды па хвалях далёка
Пошчак словаў прабег:
–Як жа мне адзінока
Жыць было без цябе!..

Два пагляды зліліся
Мо на момант які.
Пальцы туга спляліся
На адлегласць рукі.

Прыпеў.

# Смак ажын

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

(♩=116)

Am
Мой по-гляд раз-мы-лі ту-ма-ны, мой
E7 Dm
гнеў, як за-гу-бле-ны нож, мой сму-так, ні-бы не сці-
E7 A7
-ха-ны ка-стрыч-ніц-кі пом-слі-вы дождж.
Dm Am
Не ка-жы, не ка-жы, не ка-жы мне: „Бы-вай",
Смак а-жын, смак а-жын, смак а-жын успа-мі-най,
E7 1. Am A7 2. E7
не ка-жы, не ка-жы, не ка-жы. // смак а-жын, смак а-
смак а-жын,
Am
-жын.

Мой погляд размылі туманы,
Мой гнеў, як загублены нож,
Мой смутак – нібы не сціханы
Кастрычніцкі помслівы дождж.

Прыпеў: Не кажы, не кажы, не кажы мне: „Бывай..."
Не кажы, не кажы, не кажы.
Смак ажын, смак ажын, смак ажын успамінай,
Смак ажын, смак ажын, смак ажын.

Твой погляд – зялёная зорка,
Твой гнеў – ненароджаны сын,
Твой смутак – пранізліва-горкі,
Як смак недаспелых ажын.

Прыпеў.

Я веру, што вернецца лета
З маленнем растайнай імшы
І словам над сонным сусветам, –
Нічога, прашу, не кажы.

Прыпеў.

# Жоўтая вяргіня

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

(♩=76) Am Dm
Я ця - бе не пры - сніў ні ра - зу
G C
за та - ко - е даў - го - е ле - та,
F Dm
хоць ду - ша, як пу - ста - я ва - за су - ма -
Am Dm E7
- ва - ла без лю - бай квет - кі.
Dm Am
Што ка - заць аб тым, што ка - хан - не дым,
Dm G C
нам не све - ціць зор - ка да - від - на,
Dm Am
у жыц - ці тва - ім, у жыц - ці ма - ім
Dm E7 Am
жоў - та - я вяр - гі - ня рас - цві - ла.

Я цябе не прысніў ні разу
За такое даўгое лета,
Хоць душа, як пустая ваза,
Сумавала без любай кветкі.

Прыпеў: Што казаць аб тым,
Што каханне - дым.
Нам не свеціць зорка давідна.
У жыцці тваім,
У жыцці маім
Жоўтая вяргіня расцвіла.

Я цябе не прысніў ні разу
За такое даўгое лета,
У душу, бы ў пустую вазу,
Назбіраў выпадковых кветак.

Прыпеў.

# Каханне

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

(♩=120) Am Dm
Плы-ла во- сень над зям-лё- ю, я сус-трэў я - е,

E7 Am
ка-лі птуш-кі ча-ра-до- ю ад-ля-це-лі ўсе,

Dm G C Am
а-дзі-но- кі, сум-ны ле- бедзь не спя-шаў ля-цець,

Dm E7
сва-ю бе- лу- ю сяб-роў-ку ма-рыў ён суст-

Am A7 Dm Am E7
-рэць, а-дзі-но-кі, сум-ны ле-бедзь не спя-шаў ля-

A7 Dm Am E7 Am
-цець, сва-ю бе-лу-ю сяб-роў-ку ма-рыў ён суст-рэць.

Плыла восень над зямлёю,
Я сустрэў яе –
Калі птушкі чарадою
Адляцелі ўсе.
Адзінокі, сумны лебедзь
Не спяшаў ляцець –
Сваю белую сяброўку
Марыў ён сустрэць. } 2 р.

Ды зіма нечаканая
Забяліла сад,
І яе са мной не стала,
Як і не патках.
Толькі лебедзь на азёрах
Стрэўся з марою
І забыў пра вырай цёплы
З любай параю. } 2 р.

У людзей вось так бывае,
Восень – час кахаць,
Ды зіма неспадзявана
Прыйдзе ўсё адняць.
У людзей вось так бывае,
У зямных людзей,
Толькі іншае каханне
Ёсць у лебядзей. } 2 р.

# Гэта восень

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

(♩=69) Am, Dm, E7, Am E7, Am, Dm, Am E7, Am A7, Dm, Am, E7, Am A7, Dm, Am, Dm E7, Am

Гэ-та во-сень у ко-мі-не злос-на га-ло-сіць,
гэ-та кроп-лі даж-джу на за-пы-ле-ным шкле,
гэ-та про-сінь рас-тай-на-я вы-ра-ю про-сіць, гэ-та
во-сень пра-лог не-мі-ну-чы к зі-ме.
Я не ча-ка-ю, не пры-ходзь, я не ча-ка-ю, не зва-ні,
я не ча-ка-ю, мі-ма-ходзь са-ма са-бе ты не ма-ні,
я не ча-ка-ю, толь-кі дождж ца-лу-е зноў тва-е сля-ды,
я не ча-ка-ю, гэ-та ноч ця-бе за-бра-ла на-заў-жды.

Гэта восень у коміне злосна галосіць,
Гэта кроплі даждж на запыленым шкле,
Гэта просінь растайная выраю просіць,
Гэта восень – пралог немінучы к зіме.

Прыпеў: Я не чакаю – не прыходзь,
Я не чакаю – не звані,
Я не чакаю – мімаходзь
Сама сабе ты не мані.

Я не чакаю – толькі дождж
Цалуе зноў твае сляды,
Я не чакаю – гэта ноч
Цябе забрала назаўжды.

Гэта восень лістотаю сцежкі заносіць,
Гэта лета згарае на алтарах,
Гэта восень, стаю на самотным парозе,
Гэта восень, а следам за ёю зіма.

Прыпеў.

# Возера ночы

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

(♩=120)

Па-між на-мі во-зе-ра но-чы, і у
чор-най я-го ва-дзе па-ха-ваў я свой грэх ад-
-ной-чы і ад Бо-га, і ад лю-дзей. Чым ста-но-віш-ся ты мне
блі-жэй, то-е во-зе-ра ўсё глы-бей, і ўжо па-мяць не плыт, а
крыж мой, што у-рос у пра-дон-ны глей. А-ле ча-му та-
-ды, ска-жы, так со-лад-ка на тым кры-жы мне па-мі-
-раць і да-лей жыць? Ча-му? Ска-жы!.. Ня-
-хай з га-да-мі ўсё ра-дзей цві-туць лі-ле-і
на ва-дзе, ад іх свят-ла у-сё глы-бей нач-
-но-е во-зе-ра на-дзей.

## Возера ночы

Паміж намі возера ночы,
І у чорнай яго вадзе
Пахаваў я свой грэх аднойчы
І ад Бога, і ад людзей.

Чым становішся ты мне бліжай,
Тое возера ўсё глыбей,
І ўжо памяць не плыт, а крыж мой,
Што урос у прыдонны глей.

П р ы п е ў:

Але чаму тады, скажы,
Так соладка на тым крыжы
Мне паміраць і далей жыць?
Чаму? Скажы!..

Няхай з гадамі ўсё радзей
Цвітуць лілеі на вадзе –
Ад іх святла усё глыбей
Начное возера надзей.

---

Паміж намі акно нябыту,
Зазіраю ў яго ізноў,
І ўжо памяць не крыж, а плыт мой,
Што вяртае на выспу сноў.

Прыпеў:
— // —

Я ведаю чаму тады
Так соладка на тым крыжы
Мне паміраць і далей жыць –
Таму, што ёсць са мною ты.

Няхай з гадамі ўсё радзей
Цвітуць лілеі на вадзе –
Ад іх святла усё глыбей
Начное возера надзей.

# ЗАБЯРЫ МЯНЕ Ў ДОЖДЖ ВАЛАСОЎ

Словы
Эдуарда Акуліна
Музыка
Міколы Яцкова

(♩=120)

Са-рам-лі- ва у люс-тра ра-кі ты са-ма на ся-
-бе па-гля-дзе-ла, і ка-са па- слу-хмя-на з ру-кі мі-ла-
-ві-цай а-сы-па-ла це-ла. По- куль сон не рас-
-крыў па-ра-сон, за-хі-на- ю- чы нас ад спа-ку-сы, за-бя-
-ры мя-не ў дождж ва-ла- соў і ў пя-шчо-ту рас-чу- ле- ных
вус-наў, за-бя-ры мя-не ў дождж ва-ла-соў і ў пя-
-шчо- ту рас- чу- ле- ных вус- наў.

Сарамліва у люстра ракі
Ты сама на сябе паглядзела,
І каса паслухмяна з рукі
Мілавіцай асыпала цела.

Прыпеў: Покуль сон не раскрыў парасон,
Захінаючы нас ад спакусы,
Забяры мяне ў дождж валасоў
І ў пяшчоту расчуленых вуснаў,
Забяры мяне ў дождж валасоў
І ў пяшчоту расчуленых вуснаў.

П'яна восенню пахлі лугі,
Ветах знічкамі плёс зацярушыў,
А туман паяднаў берагі
І азяблыя нашыя душы.

Прыпеў.

# Зорка Максіма

Словы Эдуарда Акуліна
Музыка Міколы Яцкова

(♩=120) Am — Dm

Ме-сяч-най цёп-лай ноч-чу, шля-хам а-пош-нім

G — C

Млеч-ным ці-ха ў су-свет па-кро-чу, бу-ду са-бе свя-

A7 — Dm — Am

-ціць, каб ад-туль, з вы-шы-няў, каб ад-туль, з да-

E7

-ле-чы, ба-чыць ця-бе, Ра-дзі-ма, і, як ця-пер, лю-

Am — Dm — Gm

-біць. Я не ба-ю-ся, я не шка-ду-ю,

C — A7

для Бе-ла-ру-сі лёс а-хвя-ру-ю,

Dm — E7 — Am — F

мне не ба-лес-на, на-ват не гор-ка

Dm — Am — Dm — E7 — Am

над пе-ра-лес-кам вы-зір-нуць зор-кай.

Месячнай цёплай ноччу,
Шляхам апошнім Млечным
Ціха ў сусвет пакрочу,
Буду сабе свяціць,

Каб адтуль, з вышыняў,
Каб адтуль, з далечы,
Бачыць цябе, Радзіма,
І, як цяпер, любіць.

Прыпеў.

Калі вам стане цяжка,
Скрушна, няўтульна ў свеце,
Гляньце на неба — кажуць:
Там мая зорка гарыць,

Каб адтуль, з вышыняў,
Каб адтуль, з далечы,
Бачыць сваю Радзіму
І, як тады, любіць.

Прыпеў.

Прыпеў: Я не баюся,
Я не шкадую,
Для Беларусі
Лёс ахвярую.

Мне не балесна,
Нават не горка —
Над пералескам
Вызірнуць зоркай.

# МАЕ СНЫ БЕЗ ЦЯБЕ ПУСТЫЯ

Словы
Эдуарда Акуліна
Музыка
Міколы Яцкова

(♩=120)

Am

Ма- е сны без ця- бе пус- ты- я, спаць кла-

E7

-ду- ся, ні- бы ўмі- ра- ю, сам спа- ліў за са- бой мас-

A7

-ты я, ка- лі вы- ма- віў: „Не ка- ха- ю", ды зна-

Dm G C

-дзе- яй аб но- вай стрэ- чы, ад са- мо- га ся- бе наў-

F Dm E7

-по- тай не- па- ту- ша- най кі- ну свеч- ку я ў за-

Am A7 Dm

-бы- тай царк- ве пя- шчо- ты. Я а- дзін, ты ад-

Am E7

-на, дзень да- га- рэў і па- тух- ла свят- ло лі-

A7 Dm Am

-ле- і, я а- дзін, ты ад- на,

Dm E7 Am

жыць па- а- соб- ку наў- рад ці да- лей зда- ле- ем.

## Мае сны без цябе пустыя.

Мае сны без цябе пустыя,
Спаць кладуся, нібы ўміраю.
Сам спаліў за сабой масты я,
Калі вымавіў: «Не кахаю...»

Ды з надзеяй аб новай стрэчы,
Ад самога сябе наўпотай
Непатушанай кіну свечку
Я ў забытай царкве пяшчоты.

П р ы п е ў: Я адзін, ты адна...
Дзень дагарэў і патухла святло лілеі.
Я адзін, ты адна...
Жыць паасобку наўрад ці далей здалеем.

І няхай болей мы не тыя,
І на досвітку не лятаем,
Толькі сполахі залатыя
Нашы душы яшчэ кранаюць.

Бо з надзеяй аб новай стрэчы
Ад саміх жа сябе наўпотай
Ты і я пакідаем свечкі
У забытай царкве пяшчоты.

П р ы п е ў.

# Змест

Мая Крывія ........................................................ 3
Ты пакліч мяне, пазаві... .................................... 4
Сумую... ........................................................ 5
Начная ластаўка ................................................ 6
Пане гаспадару .................................................. 7
Чужая жонка ...................................................... 8
Паўднёвы ўспамін ............................................... 9
На возеры ........................................................ 11
Смак ажын ........................................................ 12
Жоўтая вяргіня .................................................. 13
Каханне ........................................................... 14
Гэта восень ....................................................... 15
Возера ночы ...................................................... 16
Забяры мяне ў дождж валасоў... ......................... 18
Зорка Максіма ................................................... 19
Мае сны без цябе пустыя... ................................. 20





**Эдуард Аляксандравіч Акулін** — паэт і бард. Перакладчык. Нарадзіўся 7 студзеня 1963 года ў вёсцы Вялікія Нямкі на Веткаўшчыне. Закончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф.Скарыны і аспірантуру Інстытута літаратуры НАН Беларусі.

Адзін з пачынальнікаў бардаўскага руху. Альбомы “Мая Крывія” і “Як яна і я” — сонечныя цаглінкі ў падмурак музыкі беларускіх менестрэляў. Э.Акулін наведаў з акустычнымі канцэртамі ці не кожны беларускі горад.

Акулін-паэт стварыў драматычную містэрыю “На Каляды”. Выдаў зборнікі вершаў “Пяшчота ліўня”, “Крыло анёла”, “Радно”, “Непрычалены човен”, “Вітражы” і інш., а таксама некалькі кніг перакладаў.

Эдуард Акулін — галоўны рэдактар літаратурнага часопіса для моладзі “Верасень”, а таксама намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў.



**Мікалай Адамавіч Яцкоў** нарадзіўся 22 мая 1959 г. ў Магілёве. Скончыў Магілёўскае культасветвучылішча імя Н.К.Крупскай, а потым Мінскі інстытут культуры. Служыў у войску. З 1981 года працуе дырэктарам Брылёўскага сельскага Дома культуры Магілёўскага раёна.

Выдаў зборнікі вершаў «Кракаўскія сшыткі», «Хрышчацік», «Міколавы прыпеўкі». Перакладчык. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Актыўна выступае як кампазітар-песеннік. Напісаў больш за тысячу песен на вершы беларускіх паэтаў. Аўтар песенных зборнікаў "Гронка бэзу" (на вершы Т.Ляшонка), "Знічка" (на вершы І.Карэнды), «На вайсковыя матывы» (на вершы Я.Купалы), «Птушка залатая» (на вершы А.Куляшова) і інш.

Аўтар музыкі афіцыйна зацверджанага “Гімна Магілёва”.



*Літаратурна-музычнае выданьне*

Акулін Эдуард Аляксандравіч
Яцкоў Мікалай Адамавіч

# *Мае сны без цябе пустыя...*

Песьні

*Рэдактар - А.М.Яцкова*
*Нотаграфія - М.А.Яцкой (рукапіс)*

Выдавец і паліграфічнае выкананьне




№ 75
*3. 01. 2013 г.*
*213107 в.Брылі Магілёўскага раёна, Беларусь*
mikolabryl@gmail.com

